# ЗВЯЗДА

27 сакавіка 1998 г. пятніца, № 71 (23422)

• выдаецца са жніўня 1917 г. • БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў


*ЗДАРЭННІ*

## ДТЗ ПАРАЛІЗАВАЛА РУХ ЦЯГНІКОЎ

**24 сакавіка на пераездзе станцыі Стоўбцы каля 22 гадзін аўтамашына «Форд-Сіера», якой кіраваў жыхар Стаўбцоўскага раёна, урэзалася ў электрычку Баранавічы—Мінск. Адбылося гэта ў той момант, калі на пераездзе ўжо працавала светлавая і гукавая сігналізацыя.**

Аўтамабіль на вялікай скорасці аб'ехаў некалькі аўтамашын, якія сталі наперадзе, і, не падпарадкоўваючыся гукавой і светлавой сігналізацыі, «ірвануў» праз пуці. Ад сутыкнення 22-гадовы мужчына, які знаходзіўся за рулём, памёр на месцы, а гаспадар машыны, які ехаў у якасці пасажыра, з чэрапна-мазгавой траўмай накіраваны ў рэанімацыйнае аддзяленне Баранавіцкай гарбальніцы. У выніку трагедыі на 35 хвілін паралізаваўся рух цягнікоў, якія ішлі па гэтай ветцы. Затрымка цягніка Брэст—Масква і цягніка Брэст—Адлер склалі 17 хвілін. 14 хвілін вымушаны быў стаяць цягнік Баранавічы—Віцебск—Полацк. Адпаведна на 21 і 31 хвіліны затрымаліся цягнікі Брэст—Масква і Варшава—Мінск.

**Віктар БЫКАЎ, прэс-група УУС на транспарце.**

## АБМЕРКАВАНЫ ПЫТАННІ ЎМАЦАВАННЯ РУБЛЯ

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка беларускай дзяржавы, 26 сакавіка 1998 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка прыняў шэраг супрацоўнікаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Кіраўнік дзяржавы заслухаў спецыялістаў банкаўскай справы па праблемах валютнага рэгулявання ў рэспубліцы.

Абмеркаваны бягучыя пытанні і перспектывы ўмацавання і развіцця банкаўскай сістэмы краіны, стабілізацыі валютнага рынку і абменнага курсу беларускага рубля.

Адзначалася неабходнасць удасканалення нарматыўнай базы банкаўскай сістэмы і яе ўвязкі з сучаснай сітуацыяй у эканоміцы Рэспублікі Беларусь.

Разглядаліся таксама пытанні кадравай палітыкі.

**БЕЛТА.**

## «МЫ ПАВІННЫ ЗБЛІЗІЦЬ НАШЫ НАРОДЫ І ЖЫЦЬ РАЗАМ»

Пратакол сумесных дзеянняў Беларусі і Мурманскай вобласці быў падпісаны па выніках знаходжання прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі ў гэтым расійскім рэгіёне. Дакументам прадугледжваецца далейшае супрацоўніцтва па пастаўках беларускай прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі ў лік частковых узаемаразлікаў за апатытавы канцэнтрат са змяншэннем бартэрнай часткі к канцу года.

Бакі таксама дагаварыліся вывучыць магчымасці набыцця дзесяці тралейбусаў Мінскага завода «Белкамунмаш» для Мурманска і прапрацаваць пытанне пастаўкі для сельгаспрадпрыемстваў вобласці трактароў, шын, даільных установак і іншага абсталявання. Акрамя таго, плануецца заключыць пагадненне аб абмене рыбапрадуктаў на прадукцыю сельскай гаспадаркі.

Садзейнічаць рэалізацыі прынятых рашэнняў будзе аддзяленне Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, а яно адкрыецца ў Мурманску ў бліжэйшы час, а таксама двухбаковая камісія, якая будзе створана да пачатку мая.

Заключным акордам афіцыйнага візіту прэзідэнта нашай краіны ў паўночны рэгіён Расіі была прэс-канферэнцыя, якую кіраўнік беларускай дзяржавы правёў 25 сакавіка перад тым, як адбыць у Мінск. Аляксандр Лукашэнка канкрэтна і вельмі грунтоўна адказаў на ўсе зададзеныя яму пытанні. Яны датычалі не толькі рашэнняў, прынятых у ходзе візіту, але і шэрагу іншых сфер узаемадзеяння Беларусі і Расіі.

На пытанне аб узаемаразліках па бартэру прэзідэнт адказаў, што ад іх, безумоўна, трэба адыходзіць. Але сёння адмовіцца ад бартэру нельга і гэта не атрымаецца. Такія меры прывядуць да спынення вытворчасці, і ўзаемаабмен спыніцца наогул. Аднак сёлета плануецца скараціць бартэр як мінімум на 10 працэнтаў, а гэта азначае адпаведнае павелічэнне плацяжоў.

Што датычыць спынення канверсацыі беларускай валюты на тэрыторыі Расіі, то Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што гэта зусім не так. «Мы папрасілі Цэнтральны банк, каб ён толькі на нейкі час прыпыніў каціроўкі на Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы», — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы. Ён адзначыў, што ў нашай краіне валюта канверсуецца на 40 працэнтаў вышэй, чым у Маскве. Гэта выгадна і беларускім грамадзянам, і тым, хто хоча яе купіць.

Што датычыць адзінай грашовай сістэмы Беларусі і Расіі, то прэзідэнт адзначыў, што ён заўсёды быў яе прыхільнікам. «Гэта дало б магчымасць вырашыць многія праблемы, — сказаў ён. — Але сёння, на жаль, мы вельмі далёка адышлі адзін ад аднаго. Цяпер трэба вучыцца цывілізавана канверсаваць нашы валюты».

На пытанне аб тым, чаму з расійскіх грамадзян спаганяюцца мытныя зборы за праезд па дарозе Брэст—Масква, Аляксандр Лукашэнка адказаў, што гэта асноўная наша траса. Але 85 працэнтаў грузапатоку па ёй ідзе ў Расію. Магістраль, зразумела, мае патрэбу ў падтрымцы, больш таго, яе неабходна давесці да еўрапейскага стандарту. «Для гэтага патрэбны грошы, — сказаў прэзідэнт. — Захад сродкаў не дае. Расія, дарэчы, на сумесную рэканструкцыю дарогі таксама не згадзілася. А пошліны, якія спаганяюцца за рух па ёй, дапамогуць нам зрабіць ужо ў бліжэйшыя 2-3 гады цудоўную аўтастраду».

У ходзе прэс-канферэнцыі было закранута, як кажуць, і бытавое пытанне. Яно хвалюе многіх з тых, хто праходзіць службу ў часцях Паўночнага флоту. Гэта магчымасць набыцця жылля ў Беларусі. «Тут няма ніякіх праблем, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Любы расіянін можа купіць або пабудаваць жыллё ў нас у рэспубліцы, прычым на агульных падставах. Дарэчы, нядаўна парламент Расійскай Федэрацыі ратыфікаваў пагадненне аб тым, што грамадзяне абедзвюх краін могуць мець уласнасць як на тэрыторыі Беларусі, так і на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі». Што датычыць жылля ваенных, якія служаць у Мурманскай вобласці і чые кватэры засталіся ў Беларусі, то іх жыллю, паводле слоў прэзідэнта, будзе забяспечана захаванасць. Чалавек зможа вярнуцца і жыць у нас у рэспубліцы.

Як паведамлялася ўжо, у ходзе візіту кіраўнік нашай дзяржавы наведаў штаб Паўночнага флоту. Тут былі агавораны магчымасці аднаўлення шэфскіх сувязяў і іх развіццё. На першым этапе плануецца ўзяць шэфства над адным з падводных караблёў. Аляксандр Лукашэнка адказаў і на пытанне аб тым, ці будзе ён балаціравацца ў прэзідэнты Расіі. Кіраўнік нашай дзяржавы сказаў, што па Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі для гэтага неабходна быць грамадзянінам яе краіны. «У мяне іншая мэта. Мы павінны зблізіць нашы народы і жыць разам», — падкрэсліў беларускі прэзідэнт.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

Па інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу, у рэспубліцы на 1 лютага **дзейнічалі 36 камерцыйных банкаў,** а агульная сума іх аб'яўленых статутных фондаў склала 2,9 трыльёна рублёў.

Летась у краіне **спажыванне алкаголю** з'явілася прычынай 41 працэнта смерцяў і 14,4 працэнта цяжкіх траўмаў на вытворчасці.

У Мінску сярэднестатыстычны **пенсіянер** атрымлівае ў месяц 1722 тысячы рублёў.

У Расіі багацце **сярэдняга чыноўніка** ацэньваецца ў 613 мільёнаў рублёў.

## ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

• **50 каталіцкіх кардыналаў і епіскапаў** з 15 краін сабраліся ў амерыканскім горадзе Дэнверы на спецыяльны семінар, дзе іх навучаць карыстацца Інтэрнэтам. Папа рымскі Ян Павел II нядаўна паскардзіўся, што каталіцкія іерархі не ўмеюць працаваць з камп'ютэрамі.

• **Газета «Файнэншл Таймс»** цытуе сёння намесніка міністра фінансаў Расіі — Кудрына, які паведаміў аб запланаваным звальненні больш як 200 тысяч работнікаў, занятых у дзяржаўным сектары. Па словах Кудрына, звальненні будуць праходзіць на працягу бліжэйшых трох-чатырох месяцаў.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

## ДЗЯРЖАВА НЕ ЛІЧЫЦЬ МАЛАДЗЁЖНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ДРУГАРАДНЫМІ

Прэм'ер-міністр Сяргей Лінг 25 сакавіка наведаў Рэспубліканскі Дом тэхнічнай і мастацкай творчасці навучэнскай моладзі. Менавіта гэта ўстанова каардынуе ў Беларусі развіццё творчага патэнцыялу маладога пакалення, аказваючы метадычную і арганізацыйную дапамогу пры стварэнні розных гурткоў творчай накіраванасці пры прафтэхвучылішчах і тэхнікумах. Ёсць такія гурткі, прычым бясплатныя, і ў самім Доме творчасці.

Аднак тут праводзіцца і іншая работа, якая стала, па сутнасці, прафарыентацыйнай. Ужо 25 гадоў у Доме творчасці дзейнічае пастаянная выстаўка вырабаў, створаных у гуртках, экспазіцыя якой увесь час абнаўляецца. На ёй прадстаўлены самыя розныя экспанаты — ад вырабаў лёгкай прамысловасці, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва да рацыяналізатарскіх распрацовак у станкабудаванні і электроніцы. Калі выстаўка толькі адкрылася, у ёй прынялі ўдзел 60 прафтэхвучылішчаў, якія прадставілі 90 сваіх работ. Цяпер на ёй выстаўлены больш за дзве тысячы экспанатаў ста сямідзесяці навучальных устаноў краіны.

Паводле слоў Сяргея Лінга, які агледзеў выстаўку, яна зрабіла на яго вялікае ўражанне. «Адчуваецца захопленасць, зацікаўленасць і безумоўная таленавітасць аўтараў прадстаўленых у экспазіцыі работ», — сказаў ён.

Размова аб стваральных пачатках творчасці моладзі вылілася ў абмеркаванне надзённых праблем маладзёжнага руху рэспублікі. Пасля агляду выстаўкі Сяргей Лінг сустрэўся з прадстаўнікамі шэрагу буйнейшых грамадскіх маладзёжных арганізацый і дзяржаўных структур. Удзельнікі сустрэчы ўзнялі праблемы, якія найбольш іх хвалююць, у прыватнасці, тыя, што датычаць неабходнасці прадаўжэння крэдытавання маладзёжнага жыллёвага будаўніцтва, падтрымкі развіцця дзіцячага руху, вырашэння кадравых пытанняў і інш.

Як падкрэсліў прэм'ер-міністр, перад нашай дзяржавай стаяць няпростыя задачы, у тым ліку і ў галіне маладзёжнай палітыкі. Многія яе аспекты, паводле слоў Сяргея Лінга, былі ў свой час неапраўдана пастаўлены на другі план, таму цяпер прыходзіцца наганяць упушчанае. Галоўнае, што дзяржава своечасова зразумела, што гэта неабходна.

**Аксана ПІВАВАР, БЕЛТА.**

На цэнтральнай плошчы Валожына. Фота IREX/ProMedia.

## ПЯТНІЦА 27: СЁННЯ ЗАКАНЧВАЕЦЦА ТАЙМАУТ, УЗЯТЫ НАЦБАНКАМ БЕЛАРУСІ

З сённяшняга дня, магчыма, завершыцца таймаут, які «запрасіла» новае кіраўніцтва Нацыянальнага банка: напомнім, што 23 сакавіка галоўным банкам краіны было разаслана шэраг тэлеграм па абмежаванню паступленняў беларускіх рублёў на рахункі нерэзідэнтаў. Рэакцыя на гэтае паведамленне ў Расіі была наступнай: з 24 сакавіка ММВБ прыпыніла таргі беларускім рублём. Афіцыйная інфрмацыя маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы сведчыла, што данае рашэнне выспела з рэкамендацый Цэнтрабанка Расіі ў сувязі з увядзеннем Нацбанкам Беларусі абмежаванняў, што робіць немагчымым правядзенне разлікаў па біржавых здзелках на ММВБ і вызначэнне на расійскім міжбанку курса беларускага рубля. Праўда, былі і больш катэгарычныя выказванні, сутнасць якіх зводзілася да таго, што апошнім часам беларускі бок дазволіў сабе шмат папрокаў наконт курсаўтварэння і спекуляцый на ММВБ расійскіх аператараў з беларускай валютай. Маўляў, гэта і з'явілася сапраўднай прычынай прыпынення таргоў. Як бы там ні было, аднак генеральны дырэктар ММВБ зрабіў сваё ўдакладненне, што аперацыі з беларускім рублём могуць быць узноўлены, аднак пры ўмове, што Нацбанк Беларусі адменіць уведзеныя абмежаванні. Галоўны банк рэспублікі адрэагаваў на даную інфармацыю: у чарговым паведамленні было распаведзена, што абмежаванні з'яўляюцца часовымі і будуць зняты 27 сакавіка. Гэта значыць сёння. Такім чынам, можна сцвярджаць, што расійскія правілы гульні ў нас прынялі. Абапіраючыся на афіцыйную інфармацыю, можна зрабіць выснову, што даны канфлікт паміж нашымі краінамі вычарпаны. Аднак, безумоўна, нейкі горкі асадак усё ж такі застаецца. Хоць з нашага боку нічога звышзневажальнага ў адносінах да расійскіх партнёраў і не бачаць — да такой практыкі звярталіся і раней некаторыя краіны ў выпадку спекуляцый на нерэзідэнтнцкіх рынках. Цяпер жа бягучая сітуацыя пад кантролем.

Як стала вядома, згодна з паведамленнем Упраўлення інфармацыі Нацбанка, 25 сакавіка на чарговым пасяджэнні праўлення яго члены абмеркавалі мерапрыемствы па выкананню праграмы аб неадкладных мерах па стабілізацыі валютнага рынка і абменнага курса беларускага рубля. Праграмай прадугледжваецца перавесці асноўную масу канвертацыйных аперацый на ўнутраны валютны рынак, падрыхтоўка праекта Дэкрэта Прэзідэнта краіны аб гарантыі ўкладаў насельніцтва ў камерцыйных банках у замежнай валюце. У грашова-крэдытнай і фінансавай сферы плануецца забяспечыць безэмісійнае крэдытаванне дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту ў першым квартале гэтага года. У мэтах абароны ад абясцэньвання грашовых сродкаў насельніцтва плануецца захоўваць станоўчыя працэнтныя стаўкі па рублёвых дэпазітах.

На праўленні былі адменены некаторыя папярэднія рашэнні, якія датычацца валютнага рэгулявання. У прыватнасці, дазвол на пакупку замежнымі банкамі ў беларускіх банкаў замежнай валюты за кошт рублёвых сродкаў на іх карэспандэнцкіх рахунках.

Між тым пазаўчора беларускі рубель на ўкраінскім рынку катыраваўся па 54 тысячы за долар. Што ж датычыцца катыровак на ўнутраным рынку краіны, то яны куды больш аптымістычныя: абменнікі не «выпаўзаюць» за курс у 42 тысячы рублёў за долар, а валютчыкі пакуль спыніліся на 47000—47.500 рублях. Прычым, як лічыць адна з адказных асобаў галоўнага банка, пасля афіцыйнага абвяшчэння канкрэтных мер па ўрэгуляванню сітуацыі на ўнутраным валютным рынку рубель яшчэ крыху падымецца ў вазе. Дай Бог...

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ПАРЛАМЕНЦКІ ВІЗІТ НАБЛІЖАЕЦЦА ДА ЗАВЯРШЭННЯ

Афіцыйны візіт у КНР дэлегацыі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь на чале са старшынёй Палаты прадстаўнікоў Анатолем Малафеевым, які пачаўся 21 сакавіка, уступіў у сваю завершаную стадыю. Да гэтага ўжо адбыліся сустрэчы беларускіх парламентарыяў з намеснікам старшыні і са старшынёй Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў Цімурам Давааматам і Лі Пэнам, старшынёй КНР Цзян Цзэмінем і віцэ-прэм'ерам Дзяржсавета Лі Ланьцінам.

Гэтыя сустрэчы на высокім узроўні шырока асветлены ў кітайскіх сродках масавай інфармацыі. Выходзячая на англійскай мове цэнтральная газета «China Daily» апублікавала артыкул пад загалоўкам «Палітыка Беларусі падтрымліваецца». Ён прысвечаны нашай дэлегацыі з Лі Пэнам. У матэрыяле гаворыцца літаральна наступнае: «Старшыня Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў учора заявіў, што Кітай паважае шлях развіцця, выбраны народам Беларусі.

Лі Пэн дабавіў, што Кітай — гэта дзяржава, якая праводзіць незалежную знешнюю палітыку і не прымае палітыкі ўмяшання ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў, паважаючы знешнепалітычную лінію ўрада Беларусі...

Лі Пэн сказаў, што дзве краіны задаволены плаўным развіццём двухбаковых адносінаў, якія не ўскладнены праблемамі або спрэчнымі пытаннямі, а таксама развіццём гандлёвых сувязей.

Старшыня Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў выказаў упэўненасць, што візіт дэлегацыі будзе садзейнічаць далейшаму ўмацаванню супрацоўніцтва ў палітычнай і эканамічнай галінах паміж дзвюма краінамі, таксама як і ў сферы міжурадавых сувязяў».

Матэрыял такога ж зместу быў змешчаны і ў цэнтральнай газеце «Жэньмінь Жыбао».

А вось што напісала пасля сустрэчы беларускіх парламентарыяў са старшынёй КНР Цзян Цзэмінем газета «China Daily» 25 сакавіка ў артыкуле «Адносіны з Беларуссю задавальняюць: «Прэзідэнт Цзян Цзэмінь выказаў задавальненне развіццём кітайска-беларускіх адносінаў... Цзян Цзэмінь таксама выказаў надзею, што гэтыя адносіны будуць узнімацца на новы ўзровень. Пасля ўстанаўлення дыпламатычных адносінаў краіны маюць часты абмен візітамі на ўзроўні вышэйшых кіраўнікоў і актыўныя кантакты ў розных галінах, адзначыў Цзян Цзэмінь.

Нашы нацыі прытрымліваюцца ідэнтычных або падобных поглядаў па многіх міжнародных пытаннях і падтрымліваюць адзін аднаго на аснове ўзаемаразумення, дадаў Цзян Цзэмінь.

Ён адзначыў ролю і значэнне парламента Беларусі і Пастаяннага камітэта Народнага сходу, вышэйшага заканадаўчага органа Кітая, і выказаў упэўненасць, што цяперашні візіт дэлегацыі будзе садзейнічаць актывізацыі двухбаковых сувязяў».

Кітайскімі сродкамі масавай інфармацыі шырока каменціруецца дадзеная Анатолем Малафеевым высокая ацэнка дасягненняў кіраўніцтва КНР у справе эканамічных пераўтварэнняў, яго заява аб тым, што далейшае развіццё дружалюбных адносінаў з Кітаем з'яўляецца прыярытэтным напрамкам знешняй палітыкі Беларусі. Не засталіся без увагі кітайскай прэсы выказаная кіраўнікамі палат нашага парламента Анатолем Малафеевым і Паўлам Шыпуком надзея, што старшыня КНР знойдзе магчымасць наведаць нашу краіну ў зручны для яго час і выказаныя ў адказ Цзян Цзэмінем вялікае жаданне нанесці такі візіт, а таксама яго найлепшыя пажаданні Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнка.

Шырокае асвятленне візіт беларускіх парламентарыяў атрымаў у мясцовым друку, у прыватнасці правінцыі Сычуань, дзе нашымі парламентарыямі ўважліва быў вывучаны кітайскі вопыт у рэфарміраванні сельскай гаспадаркі, а таксама Шанхая.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 157

## АБ ДЗЯРЖАЎНЫХ СВЯТАХ І СВЯТОЧНЫХ ДНЯХ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

У мэтах упарадкавання дзяржаўных свят і святочных дзён, адзначаемых у Рэспубліцы Беларусь, забеспячэння адзіных падыходаў да іх устанаўлення і правядзення і ў адпаведнасці з пунктам 18 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, **пастанаўляю:**

1. Вызначыць, што:

1.1. дзяржаўнае свята — гэта свята, устаноўленае ў Рэспубліцы Беларусь у азнаменаванне падзеі, якая мае асаблівае гістарычнае або грамадска-палітычнае значэнне для Рэспублікі Беларусь і аказала істотны ўплыў на развіццё беларускай дзяржавы і грамадства.

У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ АДЗНАЧАЮЦЦА НАСТУПНЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ СВЯТЫ:

**Дзень Канстытуцыі** — 15 сакавіка;

**Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі** — 2 красавіка;

**Дзень Перамогі** — 9 мая;

**Дзень Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь** — другая нядзеля мая;

**Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі)** — 3 ліпеня;

1.2. іншыя дні, прысвечаныя выдатным падзеям, традыцыйным датам, ушанаванню работнікаў пэўнай прафесіі, галіны гаспадаркі або сферы дзейнасці і г. д., не названыя ў падпункце 1.1 пункта 1 гэтага Указа, з'яўляюцца святочнымі днямі, калі гэта ўстаноўлена Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

2. У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ АДЗНАЧАЮЦЦА НАСТУПНЫЯ СВЯТОЧНЫЯ ДНІ:

*2.1. агульнарэспубліканскія:*

**Новы год** — 1 студзеня;

**Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь** — 23 лютага;

**Дзень жанчын** — 8 сакавіка;

**Свята працы** — 1 мая;

**Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі** — 7 лістапада;

*2.2. рэлігійныя:*

**Ражство Хрыстовае (праваслаўнае ражство)** — 7 студзеня;

**Вялікдзень** — па календару праваслаўнай і каталіцкай канфесій;

**Радаўніца** — па календару праваслаўнай канфесіі;

**Дзень памяці** — 2 лістапада;

**Ражство Хрыстовае (каталіцкае ражство)** — 25 снежня;

*2.3. прафесійныя:*

2.3.1. У ЗНАК ПРЫЗНАННЯ ЗАСЛУГ РАБОТНІКАЎ АСОБНЫХ ПРАФЕСІЙ, ГАЛІН ГАСПАДАРКІ І СФЕР ДЗЕЙНАСЦІ:

**Дзень работніка сацыяльнай абароны** — 5 студзеня;

**Дзень банкаўскага работніка** — першая нядзеля студзеня;

**Дзень беларускай навукі** — апошняя нядзеля сакавіка;

**Дзень работнікаў гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі** — чацвёртая нядзеля сакавіка;

**Дзень геолага** — першая нядзеля красавіка;

**Дзень друку** — 5 мая;

**Дзень работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі** — 7 мая;

**Дзень фізічнай культуры і спорту** — трэцяя субота мая;

**Дзень хіміка** — апошняя нядзеля мая;

**Дзень работнікаў лёгкай прамысловасці** — другая нядзеля чэрвеня;

**Дзень медыцынскага работніка** — трэцяя нядзеля чэрвеня;

**Дзень работнікаў пракуратуры** — 26 чэрвеня;

**Дзень вынаходніка і рацыяналізатара** — апошняя субота чэрвеня;

**Дзень металурга** — трэцяя нядзеля ліпеня;

**Дзень пажарнай службы** — 25 ліпеня;

**Дзень чыгуначніка** — першая нядзеля жніўня;

**Дзень будаўніка** — другая нядзеля жніўня;

**Дзень работнікаў нафтавай і газавай прамысловасці** — першая нядзеля верасня;

**Дзень мытніка** — 20 верасня;

**Дзень работнікаў лесу** — трэцяя нядзеля верасня;

**Дзень машынабудаўніка** — апошняя нядзеля верасня;

**Дзень настаўніка** — першая нядзеля кастрычніка;

**Дзень аўтамабіліста** — апошняя нядзеля кастрычніка;

**Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу** — трэцяя нядзеля лістапада;

**Дзень юрыста** — першая нядзеля снежня;

**Дзень супрацоўніка органаў дзяржаўнай бяспекі** — 20 снежня;

**Дзень энергетыка** — 22 снежня;

2.3.2. У АЗНАМЕНАВАННЕ ВЫДАТНЫХ ГІСТАРЫЧНЫХ ЗАСЛУГ ВІДАЎ І РОДАЎ ВОЙСКАЎ АЙЧЫННЫХ УЗБРОЕНЫХ СІЛ, А ТАКСАМА ЎЛІЧВАЮЧЫ ЗАДАЧЫ, ЯКІЯ ЯНЫ ВЫКОНВАЮЦЬ ПА АХОВЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ГРАНІЦ І ЗАБЕСПЯЧЭННЮ МІРУ:

**Дзень войскаў проціпаветранай абароны** — другая нядзеля красавіка;

**Дзень пагранічніка** — 28 мая;

**Дзень дэсантнікаў** — 2 жніўня;

**Дзень ваенна-паветраных сіл** — трэцяя нядзеля жніўня;

**Дзень танкістаў** — другая нядзеля верасня;

**Дзень ракетных войскаў і артылерыі** — 19 лістапада.

3. У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ ТАКСАМА АДЗНАЧАЮЦЦА:

**Дзень сям'і** — 15 мая;

**Дзень моладзі** — апошняя нядзеля чэрвеня;

**Дзень беларускага пісьменства** — першая нядзеля верасня;

**Дзень міру** — трэці аўторак верасня;

**Дзень пажылых людзей** — 1 кастрычніка;

**Дзень маці** — 14 кастрычніка;

**Дзень правоў чалавека** — 10 снежня;

**Дзень беларускага кіно** — 17 снежня.

4. АБ'ЯВІЦЬ НЕРАБОЧЫМІ ДНЯМІ:

**1 студзеня** — Новы год;

**7 студзеня** — Ражство Хрыстовае (праваслаўнае ражство);

**8 сакавіка** — Дзень жанчын;

**па календару праваслаўнай канфесіі** — Радаўніца;

**1 мая** — Свята працы;

**9 мая** — Дзень Перамогі;

**3 ліпеня** — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі);

**7 лістапада** — Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі;

**25 снежня** — Ражство Хрыстовае (каталіцкае ражство).

5. У Рэспубліцы Беларусь могуць адзначацца святочныя дні, устаноўленыя актамі міжнародных арганізацый, іншымі міжнародна-прававымі дакументамі, а па рашэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — і іншыя святочныя дні, а таксама памятныя даты, устаноўленыя заканадаўствам.

6. Рашэнне аб устанаўленні дзяржаўных свят і святочных дзён, надзяленні адпаведнай падзеі статусам дзяржаўнага свята прымаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Праект такога рашэння ўносіцца ў агульным парадку, устаноўленым для прадстаўлення на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праектаў актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Да праекта прыкладаецца матываванае абгрунтаванне неабходнасці яго прыняцця. Пры гэтым падзея, якую прапаноўваецца надзяліць статусам дзяржаўнага свята або святочнага дня, павінна адпавядаць крытэрыям, названым у пунктах 1 і 2 гэтага Указа.

Падзея можа быць аб'яўлена прафесійным святочным днём у адпаведнасці з падпунктам 2.3.1 пункта 2 гэтага Указа, калі яна адпавядае аднаму з наступных крытэрыяў:

з'яўляецца знамянальнай падзеяй для гэтай прафесіі, галіны гаспадаркі або сферы дзейнасці;

звязана з днём утварэння (заснавання, стварэння) адпаведнага органа, галіны гаспадаркі ці сферы дзейнасці, з іншай юбілейнай датай;

характарызуецца традыцыйнасцю святкавання на працягу доўгага часу;

устаноўлена на міжнародным узроўні.

Прафесійнае свята можа быць таксама ўстаноўлена з прычыны асаблівай значнасці для эканомікі адпаведнай галіны гаспадаркі або сферы дзейнасці.

У адзін каляндарны дзень, як правіла, не можа ўстанаўлівацца больш за адно дзяржаўнае свята і святочны дзень.

7. У дзяржаўныя святы і агульнарэспубліканскія святочныя дні ў адпаведнасці з заканадаўствам паднімаецца Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь.

Правядзенне з нагоды дзяржаўных свят і святочных дзён афіцыйных урачыстых мерапрыемстваў, ваенных парадаў, артылерыйскіх салютаў і феерверкаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам. Па ініцыятыве грамадскіх аб'яднанняў, рэлігійных арганізацый і грамадзян у адпаведнасці з заканадаўствам могуць праводзіцца мерапрыемствы грамадскага характару.

8. Прызнаць страціўшымі сілу ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь згодна з прыкладаемым пералікам.

9. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін прыняць неабходныя меры па прывядзенню заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Указам.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

26 сакавіка 1998 г., г. Мінск.

*«ГАРАЧЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ «ЗВЯЗДЫ» 268-27-51, 268-27-57*

## ДАВЯРАЙ, АЛЕ ПРАВЯРАЙ?

**Званок Ніны Іосіфаўны Клочка, якая пражывае ў вёсцы Старое Сяло Мінскага раёна, спачатку нават збянтэжыў. Чытачка запыталася, чаму па хатах вёскі ходзяць людзі і патрабуюць заплаціць нейкі «падатак»? Прычым ні што гэта за людзі, ні навошта яны збіраюць грошы, — невядома.**

«Загадка», зрэшты, высветлілася даволі хутка. «Невядомымі» аказаліся страхавыя агенты, ніякага «крыміналу» ў дзеяннях якіх няма. Справа ў тым, што, згодна з прэзідэнцкім дэкрэтам ад 8 кастрычніка 1997 года і пастановай Савета Міністраў ад 8 студзеня 1998 года, сёлета зноў праводзіцца абавязковае страхаванне ўсіх пабудоў, якія належаць грамадзянам. Памер плацяжоў (дарэчы, правільнасць іх налічэння вы, Ніна Іосіфаўна, можаце пераправерыць у раённым аддзяленні Белдзяржстраха, што знаходзіцца ў Мінску па вул. Альшэўскага, 8) залежыць ад таго, калі пабудавана хата, якая яна, колькі на ўчастку гаспадарчых пабудоў і г. д.

Разам з тым у аддзяленні Белдзяржстраха Мінскага раёна, куды карэспандэнт «Звязды» звярнуўся па каментарый, пытанне чытачкі назвалі цалкам слушным. Сітуацыя ўвогуле выглядае дзіўна. Як паказала практыка збору страхавых плацяжоў, амаль усе грамадзяне адразу ж згаджаюцца даць і заплаціць грошы, і толькі адзінкі цікавяцца, што за чалавек да іх прыйшоў. Таму трэба нагадаць вядомае: калі да вас звярнуліся з просьбай заплаціць «страхоўку», абавязкова патрабуйце прад'явіць пасведчанне агента Белдзяржстраха. Інакш ёсць вялікая рызыка, што вашай даверлівасцю проста скарыстаюцца нячыстыя на руку людзі.

**Сяргей ГРЫБ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 26 САКАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD Купля | USD Продаж | DM Купля | DM Продаж | RUR Купля | RUR Продаж | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 41000 | 42000 | 22300 | 23000 | 6700 | 6900 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 41500 | 42000 | 22700 | 22950 | 6850 | 6900 | 228-2055 |
| Пріорбанк | 41000 | 42000 | 22400 | 22900 | 6700 | 6900 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 33560.00 | | 18355.85 | | 5510.00 | | Курс на 27.03.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1020 | | 3.3394 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | USD Купля | USD Продаж | DM Купля | DM Продаж | RUR Купля | RUR Продаж | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 56000 | 60000 | 30633 | 32829 | 9191 | 9849 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 48000 | 48500 | 26000 | 26500 | 7500 | 8000 | |

### КІРАЎНІЦТВА НАЙБУЙНЕЙШАГА Ў БЕЛАРУСІ ПРАФСАЮЗНАГА АБ'ЯДНАННЯ ПАТРАБУЕ АД УРАДА РАШУЧАЙ КАРЭКЦІРОЎКІ ПРАВОДЗІМАГА САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА КУРСУ

Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі заклапочана абвастрэннем сітуацыі ў эканоміцы і сацыяльнай сферы і патрабуе рашучай карэкціроўкі праводзімага ў рэспубліцы сацыяльна-эканамічнага курсу. Пра гэта гаворыцца ў заяве, прынятай прэзідыумам Савета ФПБ 26 сакавіка. Адзначаецца, у прыватнасці, што рост цэнаў фактычна звёў да нуля нядаўняе павышэнне заработнай платы і тарыфнай стаўкі 1-га разраду. Апрача гэтага, узрастае доўг па зарплаце; на сёння яго памер, па дадзеных прафсаюзаў, дасягнуў крытычнай рысы — 1 трыльёну рублёў.

Прафсаюзы прапаноўваюць не пазней чым 10 красавіка абмеркаваць падобную сітуацыю на нечарговым пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях, куды ўваходзяць прадстаўнікі ўрада, наймальнікаў і прафсаюзаў, а таксама прыняць меры па безумоўным выкананні Генеральнага пагаднення па частцы павышэння рэальнага ўзроўню зарплаты ва ўсіх галінах эканомікі.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**


ДЕРЕВООБРАБАТЫВАЮЩЕЕ производство воспользуется услугами автокрана с манипулятором на длительный срок.

РЕАЛИЗУЕМ БРУС, ДОСКУ (хвойные породы).

Телефон (276) 5-57-85; т/ф 5-32-29.


*Уладзімір ГАРКУН:*

## «ТРЭБА ПАСЕЯЦЬ ТАК, КАБ МОЖНА БЫЛО РАЗЛІЧВАЦЬ НА ПРЫСТОЙНЫ ЎРАДЖАЙ»

***Незвычайнасць, калі меркаваць, зыходзячы з пункту гледжання гарадскіх эканамістаў-аналітыкаў, сёлетняй сяўбе надае і той ліхаманкавы вэрхал, што быў узняты вакол курса айчыннай валюты апошнім часам. Вядома ўсім, што большая частка абвінавачанняў з боку грамадскіх, недзяржаўных экспертаў за абвал пры гэтым легла на плечы кіраўніцтва краіны, якое прыняло чарговае рашэнне аб выразнай фінансавай падтрымцы сельскай гаспадаркі. Якой жа сапраўды мяркуецца быць веснавая сяўба? У якой ступені на самай справе дзяржава гэтым разам падтрымлівае АПК? Пра гэта і наша размова з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам ГАРКУНОМ.***

**— Дык ці будзем усё ж такі сеяць, Уладзімір Гіляравіч?**

— Не мы з вамі прыдумалі такую сялянскую звычку. Сеялі да нас, будуць сеяць і пасля. Пытанне заключаецца, думаю, у іншым. Як пасеяць — вось у чым справа. Трэба так пасеяць, каб залажыць адпаведны фундамент. Пры гэтым, безумоўна, важна захаваць усе правілы агратэхнікі. І пасеяць так, каб з пэўнай доляй дакладнасці можна было разлічваць на нармальны, прыстойны ўраджай.

**— Яшчэ нядаўна, здаецца, на пасяджэнні Савета Міністраў, вы заявілі, што графік рамонту тэхнікі быў практычна сарваны. Ці ўдалося неабходную для сяўбы тэхніку паставіць на традыцыйную лінейку гатоўнасці? І ўвогуле некалькі слоў пра сённяшнюю ацэнку машыннага парка калгасаў і саўгасаў... Дарэчы, улічваючы асаблівасці сёлетняй вясны, ці будзе, калі на тое ёсць нейкая магчымасць, зроблена большая арыентацыя на гусенічную тэхніку?**

— Сапраўды, складальнікамі поспеху з'яўляюцца арганізаванасць кадраў, спецыялістаў, стан тэхнікі, насычанасць глебы ўгнаеннямі, насенны фонд. Напрыканцы студзеня — на пачату лютага стан тэхнікі непакоіў. Прычына зразумелая. Чым у большай ступені старэе тэхнічны парк, тым большыя праблемы ўзнікаюць. І перш-наперш праблемы з энерганасычанымі трактарамі: «Кіраўцамі», Т-150, гусенічнымі. Але ж ніхто не кідаў вырашэнне праблем на самацёк. Працавалі і над арганізацыйным, і над фінансавым бокам справы. Тут трэба заўважыць наступную акалічнасць. Яшчэ ў снежні дзяржава фінансава моцна падтрымала два буйнейшыя заводы па рамонту трактароў — у Віцебску і Магілёве. Далі гэтым прадпрыемствам сродкі непасрэдна, мэтанакіравана. Справа зрушылася.

Але ёсць праблемы і зараз. Надзвычай незадаволены я станам спраў з тэхнікай у Чэрыкаўскім раёне. Не лепшая, відаць, сітуацыя і ў Віцебскім раёне. Хаця ў цэлым ёсць і пэўная задаволенасць. Калі летась на гэты ж час сабралася вялікая колькасць рухавікоў, што знаходзіліся ў рамонце, то сёлета сітуацыя зусім іншая. Вось і на Магілёўскім заводзе практычна і паступленне, і вяртанне адрамантаваных рухавікоў роўныя. Напружання ў гэтым плане няма. Таму зараз і здымаецца некаторая ранейшая трывога.

**— Уладзімір Гіляравіч, некалькі слоў пра новую тэхніку, пра магчымыя сёлетнія перспектывы гаспадарак у яе набыцці.**

— Сёлета, між іншым, у студзені далі гаспадаркам тысячу трактароў па лізінгу. І вось вы задалі пытанне адносна гусенічных, то я тут выклаў бы наступную пазіцыю. На мой пункт гледжання, стаўка павінна рабіцца на магутную колавую тэхніку. Я ўжо гаварыў пра гэта на гродзенскай нарадзе, трэба паставіць сёлета яшчэ тысячу «МТЗ-1221». А гусенічныя... Па-першае, дорага. Па-другое, набываючы гусенічную тэхніку, мы будзем сілкаваць не айчыннага вытворцу. А перш-наперш трэба думаць пра ўласную прамысловасць. І вось яшчэ што датычыцца тэхнікі (у гэтым, між іншым, агульныя пазіцыі — і ў Саўміна, і ў Мінсельгасхарча), мы, не забываючыся пра ўсю важнасць падрыхтоўкі да веснавой сяўбы і яе правядзення, разумеем: болей складаным выпрабаваннем будуць наступныя этапы — уборка кармоў, збожжавых. Таму, што прыемна адзначыць, амаль што паўсюдна паўнавартасна разгорнута падрыхтоўка збожжаўборачных камбайнаў. асаблівую задаволенасць выклікае стан спраў у Магілёўскай вобласці. Людзі разумеюць, што ні з фінансамі, ні з занятасцю кадраў лягчэй не будзе ні ў маі, ні ў чэрвені. Калі хто камбайн выпускае ў стадыю гатоўнасці ў ліпені, то дбаць пра нейкую якасць рамонту наўрад ці хто дбае. Спрацоўвае прынцып «абы хутчэй».

**— Дарэчы, ці папоўніцца сёлета парк збожжаўборачных камбайнаў?**

— Думаем, каб набыць хаця б тысячу камбайнаў. Хаця задача гэта таксама з найскладанейшых.

Сапраўды, калі гаварыць агульна, стан тэхнікі трывожыць. Але па тым, што зроблена ў апошні час, можна зрабіць выснову: цалкам рэальна, што сённяшні тэхнічны стан павінен забяспечыць сяўбу.

**— Уладзімір Гіляравіч, нароўні з тэхнічным асаблівую важнасць мае пытанне ўгнаенняў. Ці будзе працаваць, ці працуе сёлета ранейшая формула «40+40+20»? Ці не здараецца часам так, што раней калгасы вымушаны выбраць, наколькі гэта ім эканамічна ўдаецца, мінеральныя ўгнаенні, чым праводзіцца аплата іх?**

— Калі параўноўваць сітуацыю па мінеральных угнаеннях, то не ўсё так дрэнна, як гавораць на месцах. Адразу скажу па аплаце. Запазычанасць з рэспубліканскага бюджэту складае 111 млрд. рублёў, запазычанасць калгасаў — 220 млрд. рублёў. Так што лічбы самі за сябе гавораць, хто і як разлічваецца за ўгнаенні. А ўвогуле сёлета нарыхтавана 140 працэнтаў да ўзроўню леташняга года. Дарэчы, амаль усе ўгнаенні — нашыя. Проста выдатная пазіцыя склалася па вадкіх угнаеннях, якіх нарыхтавана ў тры разы болей. А задача, якая была сфармулявана па ўгнаеннях на гэты год, выкананая і перавыкананая. Хаця работы працягваюцца, час яшчэ ёсць. Але важна, каб гэта было ўнесена якасна. Каб працавалі гэтыя ўгнаенні. Ёсць прыклады, калі пры аднолькавых умовах аднолькавая колькасць унесеных угнаенняў дае розніцу ва ўраджаі да 4 цэнтнераў. Хіба дзеля гэтага не варта рупіцца пра якасць?!

**— Давайце вернемся да пытання крэдытаў. Як, з чаго зыходзячы сфарміраваны іх памер? На якія складальнікі, калі мець на ўвазе немінучую перспектыву разлікаў, яны дзеляцца? Што выдзелена і на якіх умовах?..**

— Я не буду вам называць лічбы. Галоўнае — зразумець падыходы дзяржавы, характар атрымання калгасамі грошай. Асноўная доля скіраваных сродкаў — гэта авансаванне сельскагаспадарчай прадукцыі. Гэта наперад атрыманыя сродкі за будучы продаж збожжа, цукровых буракоў, ільну. Дык чаму мы павінны выслухоўваць усе гэтыя абвінавачанні адносна таго, што сельская гаспадарка сталася прычынай з'яўлення пустых грошай? Нам жа некаторыя крытыкі падносяць звычайны крэдыт як бясплатную дапамогу. Яшчэ раз паўтару: недзе да шасцідзесяці працэнтаў выдзеленых сродкаў — гэта авансаваны крэдыт. Другая асноўная дапамога і падтрымка — тое, што запланавана ў бюджэце рэспублікі як фонд падтрымкі вёскі. І трэцяя ёсць сума выдзеленых сродкаў — крэдыты банкаў. Праўда, іх, выключна чыстых крэдытаў, выдзелена 300 млрд. рублёў. Канешне ж, усё з'яўляецца дапамогай дзяржавы. А падтрымка аказана досыць істотная. Але хопіць вінаваціць калгасы, што яны ў ролі дармаедаў вісяць на чыёйсьці шыі.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

